# Цуда дваццатага стагоддзя — чалавек у космасе!

## ГЭТА НАШ, САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК.

### Першы пілот-касманаўт Юрый ГАГАРЫН

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 30 (1564) | Пятніца, 14 красавіка 1961 года | Цана 4 кап.



Маёру Юрыю Гагарыну, першаму ў гісторыі пілоту-касманаўту, месяц назад мінула 27 год.

Ён нарадзіўся 9 сакавіка 1934 года ў Гжацкім раёне Смаленскай вобласці (Расійская Федэрацыя) у сям'і калгасніка.

У 1941 годзе паступіў вучыцца ў сярэднюю школу, але нашэсце гітлераўцаў перапыніла яго вучобу.

Пасля заканчэння другой сусветнай вайны сям'я Гагарына пераехала ў горад Гжацк. Там Юрый працягваў вучыцца ў сярэдняй школе. У 1951 годзе ён закончыў выдатна рамеснае вучылішча ў горадзе Люберцы паблізу Масквы па спецыяльнасці фармаўшчыка-ліцейшчыка і адначасова школу рабочай моладзі.

Затым Юрый Гагарын вучыўся ў індустрыяльным тэхнікуме ў горадзе Саратаве на Волзе. У 1955 годзе ён скончыў тэхнікум выдатна.

Свае першыя крокі ў авіяцыі Гагарын пачаў, будучы студэнтам тэхнікума. Ён навучаўся ў Саратаўскім аэраклубе. Пасля заканчэння курса аэраклуба ў 1955 годзе вучыўся ў авіяцыйным вучылішчы ў горадзе Аранбургу. З 1957 года, калі Гагарын скончыў гэтае вучылішча па першаму разраду, ён служыць лётчыкам савецкай авіяцыі.

У мінулым годзе Юрый Гагарын уступіў у рады Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Ён жанаты. Яго жонка Валянціна Гагарына, 26 год, скончыла ў Аранбургу медыцынскае вучылішча. Іх дачцы Алене два гады. Другой дачцы Галі — адзін месяц.

59-гадовы бацька Гагарына працуе сталяром. Маці яго, Ганна, 1903 года нараджэння, хатняя гаспадыня.

(ТАСС).

## Да Камуністычнай партыі і народаў Савецкага Саюза!
## Да народаў і ўрадаў усіх краін!
## Да ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва!

# ЗВАРОТ

## Цэнтральнага Камітэта КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Урада Савецкага Саюза

Адбылася вялікая падзея. Упершыню ў гісторыі чалавек ажыццявіў палёт у космас.

12 красавіка 1961 года ў 9 гадзін 7 мінут па маскоўскаму часу касмічны карабель-спадарожнік «Усход» з чалавекам на борце падняўся ў космас і, зрабіўшы палёт вакол зямнога шара, шчасліва вярнуўся на свяшчэнную зямлю нашай Радзімы—Краіны Саветаў.

Першы чалавек, які пранік у космас,—савецкі чалавек, грамадзянін Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!

Гэта — бяспрыкладная перамога чалавека над сіламі прыроды, найвялікшая заваёва навукі і тэхнікі, трыумф чалавечага розуму. Пакладзен пачатак палётам чалавека ў касмічную прастору.

У гэтым подзвігу, які ўвойдзе ў стагоддзі, увасоблены геній савецкага народа, магутная сіла сацыялізма.

З пачуццём вялікай радасці і законнай гордасці Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савецкі ўрад адзначаюць, што гэтую новую эру ў прагрэсіўным развіцці чалавецтва адкрыла наша краіна — краіна перамогшага сацыялізма.

У мінулым адсталая царская Расія не магла і марыць аб здзяйсненні такіх подзвігаў у барацьбе за прагрэс, аб спаборніцтве з больш развітымі ў тэхніка-эканамічных адносінах краінамі.

Воляй рабочага класа, воляй народа, натхняемых партыяй камуністаў на чале з Леніным, наша краіна ператварылася ў магутную сацыялістычную дзяржаву, дасягнула небывалых вышынь у развіцці навукі і тэхнікі.

Калі рабочы клас у кастрычніку 1917 года ўзяў уладу ў свае рукі, многія, нават сумленныя людзі, сумняваліся ў тым, ці зможа ён кіраваць краінай, захаваць хоць бы дасягнуты ўзровень развіцця эканомікі, навукі і тэхнікі.

І вось цяпер перад усім светам рабочы клас, савецкае калгаснае сялянства, савецкая інтэлігенцыя, увесь савецкі народ дэманструюць небывалую перамогу навукі і тэхнікі. Наша краіна апярэдзіла ўсе іншыя дзяржавы свету і першай праклала шлях у космас.

Савецкі Саюз першым запусціў міжкантынентальную балістычную ракету, першым паслаў штучны спадарожнік Зямлі, першым накіраваў касмічны карабель на Месяц, стварыў першы штучны спадарожнік Сонца, ажыццявіў палёт касмічнага карабля ў напрамку да планеты Венера. Адзін за другім савецкія караблі-спадарожнікі з жывымі істотамі на борце рабілі палёты ў космас і вярталіся на Зямлю.

Вянцом нашых перамог у асваенні космасу з'явіўся трыумфальны палёт савецкага чалавека на касмічным караблі вакол Зямлі.

Гонар і слава рабочаму класу, савецкаму сялянству, савецкай інтэлігенцыі, усяму савецкаму народу!

Гонар і слава савецкім вучоным, інжынерам і тэхнікам — стваральнікам касмічнага карабля!

Гонар і слава першаму касманаўту — таварышу Гагарыну Юрыю Аляксеевічу — піянеру асваення космасу!

Нам, савецкім людзям, якія будуюць камунізм, выпаў гонар першымі пранікнуць у космас. Перамогі ў асваенні космасу мы лічым не толькі дасягненнем нашага народа, але і ўсяго чалавецтва. Мы з радасцю ставім іх на службу ўсім народам, у імя прагрэсу, шчасця і дабрабыту ўсіх людзей на Зямлі. Нашы дасягненні і адкрыцці мы ставім не на службу вайне, а на службу міру і бяспекі народаў.

Развіццё навукі і тэхнікі адкрывае бязмежныя магчымасці для авалодання сіламі прыроды і выкарыстання іх для шчасця чалавека, для гэтага перш за ўсё трэба забяспечыць мір.

У гэты ўрачысты дзень мы зноў звяртаемся да народаў і ўрадаў усіх краін з прызыўным словам аб міры.

Няхай усе людзі, незалежна ад рас і нацый, колеру скуры, ад веравызнання і сацыяльнай прыналежнасці, прыкладуць усе сілы, каб забяспечыць трывалы мір ва ўсім свеце. Пакладзём канец гонцы ўзбраенняў! Ажыццёвім усеагульнае і поўнае раззбраенне пад строгім міжнародным кантролем! Гэта будзе рашаючы ўклад у свяшчэнную справу абароны міру.

Слаўная перамога нашай Радзімы натхняе ўсіх савецкіх людзей на новыя подзвігі ў будаўніцтве камунізма!

Наперад, да новых перамог у імя міру, прагрэсу і шчасця чалавецтва!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

САВЕТ МІНІСТРАЎ САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

Масква, Крэмль. 12 красавіка 1961 года.

## Юрый Гагарын занесен у Кнігу гонару ЦК ВЛКСМ

МАСКВА, 12 красавіка. (ТАСС). За бяспрыкладны ў гісторыі чалавецтва подзвіг, які навекі праслаўляе савецкі народ, савецкую навуку і тэхніку і з'яўляецца выдатным узорам беззаветнага служэння інтарэсам Радзімы, ЦК ВЛКСМ занёс у Кнігу гонару ЦК ВЛКСМ выхаванца Ленінскага камсамола таварыша Гагарына Юрыя Аляксеевіча, першага ў свеце лётчыка-касманаўта, які праклаў людзям Зямлі шлях у космас.

# ШЛЯХ АДКРЫТ

## Паведамленне ТАСС

12 красавіка 1961 г. у Савецкім Саюзе выведзен на арбіту вакол Зямлі першы ў свеце касмічны карабель-спадарожнік «Усход» з чалавекам на борце.

Пілотам-касманаўтам касмічнага карабля-спадарожніка «Усход» з'яўляецца грамадзянін Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік лётчык маёр ГАГАРЫН Юрый Аляксеевіч.

Старт касмічнай шматступеньчатай ракеты прайшоў паспяхова, і пасля набору першай касмічнай скорасці і аддзялення ад апошняй ступені ракеты-носьбіта карабель-спадарожнік пачаў свабодны палёт па арбіце вакол Зямлі.

Паводле папярэдніх даных, перыяд абарачэння карабля-спадарожніка вакол Зямлі складае 89,1 мінуты; мінімальнае аддаленне ад паверхні Зямлі (у перыгеі) роўна 175 кіламетрам, а максімальная адлегласць (у апагеі) складае 302 кіламетры; вугал нахілу плоскасці арбіты да экватара 65 градусаў 4 мінуты.

Вага касмічнага карабля-спадарожніка з пілотам-касманаўтам складае 4.725 кілаграмаў, без уліку вагі канцавой ступені ракеты-носьбіта.

З касманаўтам таварышам ГАГАРЫНЫМ устаноўлена і падтрымліваецца двухбаковая радыёсувязь. Частоты бартавых кароткахвалевых перадатчыкаў складаюць 9,019 мегагерца і 20,006 мегагерца, а ў дыяпазоне ультракароткіх хваляў 143,625 мегагерца. З дапамогай радыётэлеметрычнай і тэлевізійнай сістэм праводзіцца назіранне за станам касманаўта ў палёце.

Перыяд вывядзення карабля-спадарожніка «Усход» на арбіту касманаўт таварыш ГАГАРЫН перанёс здавальняюча і ў цяперашні час адчувае сябе добра. Сістэмы, якія забяспечваюць неабходныя жыццёвыя ўмовы ў кабіне карабля-спадарожніка, функцыяніруюць нармальна.

Палёт карабля-спадарожніка «Усход» з пілотам-касманаўтам таварышам ГАГАРЫНЫМ на арбіце працягваецца.

* * *

МАСКВА, 12 красавіка. (ТАСС). Паводле атрыманых даных з борта касмічнага карабля «Усход», у 9 гадзін 52 мінуты па маскоўскаму часу пілот-касманаўт маёр Гагарын, знаходзячыся над Паўднёвай Амерыкай, перадаў: «Палёт праходзіць нармальна, адчуваю сябе добра».

* * *

МАСКВА, 12 красавіка. (ТАСС). У 10 гадзін 15 мінут па маскоўскаму часу пілот-касманаўт маёр Гагарын, пралятаючы над Афрыкай, перадаў з борта касмічнага карабля «Усход»: «Палёт праходзіць нармальна, стан бязважкасці пераношу добра».

* * *

МАСКВА, 12 красавіка. (ТАСС). У 10 гадзін 25 мінут маскоўскага часу, пасля аблёту зямнога шара ў адпаведнасці з зададзенай праграмай, была ўключана тармазная рухальная ўстаноўка і касмічны карабель-спадарожнік з пілотам-касманаўтам маёрам Гагарыным пачаў зніжацца з арбіты для прызямлення ў зададзеным раёне Савецкага Саюза.

* * *

Пасля паспяховага правядзення намечаных даследаванняў і выканання праграмы палёту 12 красавіка 1961 года ў 10 гадзін 55 мінут маскоўскага часу савецкі карабель «Усход» зрабіў удалую пасадку ў зададзеным раёне Савецкага Саюза.

Лётчык-касманаўт маёр Гагарын паведаміў: «ПРАШУ ДАЛАЖЫЦЬ ПАРТЫІ І ЎРАДУ І АСАБІСТА МІКІТУ СЯРГЕЕВІЧУ ХРУШЧОВУ, ШТО ПРЫЗЯМЛЕННЕ ПРАЙШЛО НАРМАЛЬНА, АДЧУВАЮ СЯБЕ ДОБРА, ТРАЎМАЎ І ЎДАРАЎ НЕ МАЮ».

Ажыццяўленне палёту чалавека ў касмічную прастору адкрывае грандыёзныя перспектывы пакарэння космасу чалавецтвам.

## Савецкаму касманаўту, які ўпершыню ў свеце зрабіў касмічны палёт, маёру ГАГАРЫНУ Юрыю Аляксеевічу

ДАРАГІ ЮРЫЙ АЛЯКСЕЕВІЧ!

МНЕ ДАСТАЎЛЯЕ ВЯЛІКУЮ РАДАСЦЬ ГОРАЧА ПАВІНШАВАЦЬ ВАС З ВЫДАТНЫМ ГЕРАІЧНЫМ ПОДЗВІГАМ — ПЕРШЫМ КАСМІЧНЫМ ПАЛЁТАМ НА КАРАБЛІ-СПАДАРОЖНІКУ «УСХОД».

УВЕСЬ САВЕЦКІ НАРОД У ЗАХАПЛЕННІ АД ВАШАГА СЛАЎНАГА ПОДЗВІГУ, ЯКІ БУДУЦЬ ПАМЯТАЦЬ У ВЯКАХ ЯК ПРЫКЛАД МУЖНАСЦІ, АДВАГІ І ГЕРОЙСТВА Ў ІМЯ СЛУЖЭННЯ ЧАЛАВЕЦТВУ.

ЗРОБЛЕНЫ ВАМІ ПАЛЁТ АДКРЫВАЕ НОВУЮ СТАРОНКУ Ў ГІСТОРЫІ ЧАЛАВЕЦТВА, У ПАКАРЭННІ КОСМАСУ І НАПАЎНЯЕ СЭРЦЫ САВЕЦКІХ ЛЮДЗЕЙ ВЯЛІКАЙ РАДАСЦЮ І ГОРДАСЦЮ ЗА СВАЮ САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ РАДЗІМУ.

АД УСЯГО СЭРЦА ВІНШУЮ ВАС СА ШЧАСЛІВЫМ ВЯРТАННЕМ З КАСМІЧНАГА ПАДАРОЖЖА НА РОДНУЮ ЗЯМЛЮ. АБДЫМАЮ ВАС.

ДА ХУТКАЙ СУСТРЭЧЫ Ў МАСКВЕ.

М. ХРУШЧОЎ.

12 красавіка 1961 года.

## ЗАГАД
## Міністра Абароны СССР

12 КРАСАВІКА 1961 г. № 78 г. МАСКВА

У азнаменаванне найвялікшай перамогі савецкага народа, выдатнага подзвігу вучоных, інжынераў, тэхнікаў і рабочых, якія забяспечылі 12 красавіка 1961 года паспяховае ажыццяўленне першага ў свеце палёту савецкага чалавека маёра Гагарына Ю А. на караблі-спадарожніку «Усход» у касмічную прастору

ЗАГАДВАЮ:

14 красавіка г. г зрабіць салют 20-ю артылерыйскімі залпамі ў сталіцы нашай Радзімы—Маскве, сталіцах саюзных рэспублік і гарадах-героях: Ленінградзе, Сталінградзе, Севастопалі і Адэсе.

Міністр Абароны СССР Маршал Савецкага Саюза
Р. МАЛІНОЎСКІ.

# А МЫ ПЛЫВЁМ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ,

* * *

# СЛАВА НАРОДУ-СТВАРАЛЬНІКУ!

**Усім вучоным, інжынерам, тэхнікам, рабочым, усім калектывам і арганізацыям, якія ўдзельнічалі ў паспяховым ажыццяўленні першага ў свеце касмічнага палёту чалавека на караблі-спадарожніку „Усход“**

**Першаму савецкаму касманаўту таварышу ГАГАРЫНУ Юрыю Аляксеевічу**

Дарагія таварышы!
Сябры-суайчыннікі!

Радасную, хвалюючую падзею перажываюць народы нашай краіны. 12 красавіка 1961 года ўпершыню ў гісторыі чалавецтва наша Радзіма — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — паспяхова ажыццявіла палёт чалавека на караблі-спадарожніку «Усход» у касмічную прастору.

Палёт савецкага чалавека ў космас — найвялікшае дасягненне творчага генія нашага народа, вынік свабоднай і натхнёнай працы савецкіх людзей — будаўнікоў камунізма. Тое, аб чым у мінулым марылі выдатныя прадстаўнікі рускай і сусветнай навукі і тэхнікі, чаму прысвяціў сваё жыццё геніяльны сын нашага народа Канстанцін Эдуардавіч Цыялкоўскі, ператварылася сёння ў жывую рэчаіснасць, стала явай нашых гераічных дзён. Гэта вялікі выдатны ўклад савецкага народа ў скарбніцу сусветнай навукі і культуры. Гэтая неацэнная заслуга Савецкага Саюза будзе з падзякай успрынята чалавецтвам. Гераічным палётам савецкага чалавека ў космас адкрыта новая эра ў гісторыі Зямлі. Адвечная мара чалавецтва збылася.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР ад імя нашай слаўнай Камуністычнай партыі, Савецкага ўрада, усіх народаў Савецкага Саюза горача віншуюць з вялікай перамогай розуму і працы ўсіх вучоных, канструктараў, тэхнікаў, рабочых, усе калектывы і арганізацыі, якія ўдзельнічалі ў паспяховым ажыццяўленні першага ў свеце касмічнага палёту чалавека.

Сардэчна вітаем і віншуем Вас, дарагі наш таварыш Юрый Аляксеевіч ГАГАРЫН, з найвялікшым подзвігам — першым палётам у космас.

Наш свабодны, таленавіты і працавіты народ, узняты Партыяй камуністаў на чале з вялікім правадыром і настаўнікам працоўных усяго свету Уладзімірам Ільічом Леніным у кастрычніку 1917 года да свядомай гістарычнай творчасці, паказвае цяпер усяму свету найвялікшыя перавагі новага, сацыялістычнага ладу ва ўсіх галінах жыцця грамадства.

Касмічны палёт чалавека — гэта вынік паспяховага ажыццяўлення грандыёзнай праграмы разгорнутага камуністычнага будаўніцтва, нястомных клопатаў Камуністычнай партыі і яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта і Савецкага ўрада на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым аб няспынным развіцці навукі, тэхнікі, культуры, аб шчасці савецкага народа.

Менш чатырох год аддзяляюць запуск першага ў свеце савецкага штучнага спадарожніка Зямлі ад паспяховага палёту чалавека ў космас.

Савецкія вучоныя, інжынеры, тэхнікі, рабочыя сваёй упартай і самаадданай працай адкрылі шлях чалавечаму генію ў глыбіні сусветнай прасторы. І яны зрабілі гэта ў імя міру на зямлі, у імя шчасця ўсіх народаў.

Першы палёт чалавека ў космас стане крыніцай новага натхнення і смелых імкненняў для ўсіх савецкіх людзей у імя далейшага прагрэсу і міру ва ўсім свеце.

Слава савецкім вучоным, канструктарам, інжынерам, тэхнікам і рабочым — пакарыцелям космасу!

Слава нашаму народу — народу-стваральніку, народу-пераможцу, які пракладвае пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі шлях да светлай будучыні ўсяго чалавецтва — камунізма!

Няхай жыве слаўная Камуністычная партыя Савецкага Саюза — вялікі натхніцель і арганізатар усіх перамог савецкага народа!

Няхай жыве камунізм!

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС** **ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР** **САВЕТ МІНІСТРАЎ САЮЗА ССР**

На здымку: Юрый Аляксеевіч Гагарын з жонкай Валянцінай Іванаўнай і дачкой Ленай.
Фотахроніка БЕЛТА.

## Трыумф савецкай навукі

Радыё перадало ўсяму свету незвычайную вестку: для асваення сусветнай прасторы быў пасланы ў космас першы чалавек — Юрый Аляксеевіч Гагарын. Ён паспяхова абляцеў вакол Зямлі і прызямліўся ў зададзеным раёне.

Цяжка перадаць тую радасць і гонар, якія адчувае кожны чалавек нашай неабсяжнай Радзімы за поспехі савецкай навукі, тэхнікі, за поспехі нашых савецкіх людзей.

Палёту ў космас чалавека папярэднічала вялікая падрыхтоўчая работа. Не малое месца належыць і медыцынскай навуцы ў падрыхтоўцы да палёту чалавека ў космас. На самай справе, колькі найскладанейшых праблем трэба вырашыць, каб забяспечыць палёт чалавека ў касмічную прастору.

Пры палёце ў касмічных караблях на чалавека дзейнічаюць асаблівыя фактары вонкавага асяроддзя, неўласцівыя звычайным умовам жыцця на зямлі — сілы паскорання, стан няважкасці, касмічная радыяцыя. Вельмі складанымі з'яўляюцца пытанні харчавання, газаабмену, правільнага ўспрыняцця навакольнага асяроддзя і інш. Усё гэта трэба старанна вывучыць, каб забяспечыць бяспеку палёту будучых касманаўтаў у далёкія падарожжы і на іншыя планеты.

Абавязак кожнага вучонага — унесці пасільны ўклад у вырашэнне праблем касмічнага паветраплавання. Мне здаецца, што фармаколагі нашай краіны павінны звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на адшуканне сродкаў, якія павялічваюць супраціўленне чалавека ўздзеянню тых фактараў, што адмоўна ўплываюць на яго арганізм. Перш за ўсё, гаворка ідзе пра такія сродкі, якія б аблегчылі перанясенне чалавекам сіл паскорання, павялічылі б вынослівасць чалавека пры кіслародным галаданні і многія іншыя.

Трэба спадзявацца, што савецкая медыцына з поспехам вырашыць і гэтыя праблемы.

Нараджаецца многа думак, ідэй, хочацца яшчэ больш працаваць, каб наша савецкая навука заўсёды была перадавой.

**К. ШАДУРСКІ,**
**прафесар.**

## Што вы скажаце?

**НАШЫ ІНТЭРВ'Ю**
**РАНІЦАЙ 12 КРАСАВІКА**

**Заір АЗГУР,**
*скульптар*
**— Я не верыў у цуды. Цяпер скажу: наш чалавек можа рабіць цуды. Палёт Гагарына — свята нашай Радзімы.**

**Вера ШУТ,**
*касір-кантралёр*
**— Гэта цудоўна!**

**Юрый ТАТАРАЎ,**
*канструктар завода аўтаматычных ліній*
**— Ганаруся сваім цёзкам...**

**Іна і Іра**
**— Мы абавязкова паляцім на караблі з дзядзькам Гагарыным... Вядома, калі нам дазволяць папы і мамы.**

**Янка МАЎР,**
*пісьменнік*
**— Усё было добра, калі я на крыллях фантазіі падарожнічаў у космас. А цяпер, калі пачуў пра жывога касманаўта—маёра Гагарына, то ўсе мае героі разам з фантамабілем паляцелі ўверх тармашкамі.**

**Аляксандр ЖАРНАКЛЕЕЎ,**
*кіяскёр*
**— Мне хочацца сёння шчыра абняць усіх, хто стварыў цудоўны касмічны карабель. Вітаю нашых вучоных і вынаходцаў. Злучаныя Штаты Амерыкі, якія так многа хваляцца, асталіся зноў далёка ззаду.**

**Аляксандр ДРОЗД,**
*лётчык грамадзянскага флоту, камандзір карабля*
**— Шчыра прызнацца, я вельмі зайздрошчу свайму калегу па прафесіі Юрыю Аляксеевічу Гагарыну. Спадзяюся, што прыйдзе час, калі і я павяду ў космас пасажырскі карабель.**

**Афанасій ВАЛЬКОВІЧ,**
*брыгадзір калгаса імя Гастэлы Мінскага раёна*
**— Радасна быць сведкам гэтай надзвычайнай падзеі. І тым больш радасна, што першым пілотам касмічнага карабля быў наш чалавек, сын вялікага савецкага народа.**

**Вольга СІВОХІНА**
**— Майму ўнуку Вадзіму 10 месяцаў. Я хачу, каб ён рос такім жа адважным, як Гагарын.**

**Іван КНАЦЬКО,**
*майстар гадзіннікаў*
**— Вас цікавіць мая думка? Не знаходжу слоў, каб выказаць усё, што на душы. Скажу толькі: слава савецкаму чалавеку!**

## ЗБЫЛОСЯ!

У каго з нас, савецкіх грамадзян, не забілася сэрца і душа не напоўнілася гонарам за наш народ, за нашу цудоўную Айчыну, калі мы даведаліся пра выдатны палёт касмічнага карабля з першым савецкім касманаўтам — маёрам Гагарыным і пра яго шчаслівае вяртанне на родную зямлю! Мне міжволі прыгадаліся мелодыя і тэкст з папулярнага да гэтага часу савецкага авіямаршу «Всё выше и выше...», у якім, дарэчы, спяваецца: «Мы рождены, чтоб сказку сделать былью». І гэта сапраўды так: тысячагоддзямі марыла чалавецтва аб пранікненні ў тайны зорнага неба, старалася пазнаць нязведаныя паднябесныя прасторы, і, нарэшце, наш просты савецкі чалавек з'явіўся першым заваёўнікам космасу, і даўняя казка ператварылася ў яву.

Пра такую выдатную падзею ў нашым жыцці нельга спакойна, без хвалявання гаварыць і пісаць; хочацца адгукнуцца на яе ўзнёслай музыкай, жыццярадаснай, бадзёрай песняй пра першага смелага савецкага касманаўта, які сваім гераічным подзвігам яшчэ больш уславіў на ўвесь свет дарагую Радзіму.

**Я. ЦІКОЦКІ,**
**народны артыст СССР.**

## Герою з герояў

Бяспрыкладны подзвіг Юрыя Аляксеевіча Гагарына — першага касманаўта Зямлі — падобны на казачнае цуда.

Гэты подзвіг радасна ўсхваляваў увесь свет, бо ўпершыню чалавек пашырыў межы Сусвету, першым пралажыў сцяжынку ў неабсяжных прасторах космасу. І гэты чалавек — сын савецкага народа, грамадзянін Савецкай дзяржавы. Вось чаму сэрца кожнага з нас поўніцца вялікай радасцю і гордасцю за нашу слаўную Радзіму. Яна першая ў свеце пралажыла надзейныя дарогі да сапраўднага шчасця чалавека на Зямлі. І першаю ў свеце пракладвае дарогі ў нязведаныя далячыні Сусвету.

Подзвіг Юрыя Аляксеевіча Гагарына — вялікая гістарычная падзея, якая назаўсёды застанецца ў памяці людскіх пакаленняў як грандыёзная перамога стваральнай працы чалавека і яго светлага розуму, перамога, якая раскрывае перад усім светам веліч характару савецкага чалавека, усё высакародства яго замыслаў, яго імкненняў і спадзяванняў.

Слава савецкаму народу, першаадкрывальніку таямніц Сусвету!

Слава нашай любай Радзіме!

Слава першаму касманаўту — герою з герояў савецкай зямлі!

**Міхась ЛЫНЬКОЎ.**

## КАЗКА СТАЛА ЯВАЮ

Вялікая, нечуваная дагэтуль падзея — палёт першага чалавека ў космас. Ці ж можна сустрэць яе без хвалявання, без радасці за нашу навуку, за савецкага чалавека, які першым адкрыў дарогу ў нязведанае.

Тое, што было казкай, што было прыгожай марай, тое, пра што думалі найлепшыя розумы Зямлі, сталася явай, сапраўднасцю. Дзівіцеся, людзі, генію чалавека, які толькі ва ўмовах сацыялістычнага грамадства здолеў здзейсніць мары пра заваёву космасу.

За імкненне пранікнуць толькі думкаю за межы Зямлі чалавецтва паплацілася многімі жыццямі. На працягу змрочнага сярэдневякоўя адна папская інквізіцыя спаліла на агні за новыя прагрэсіўныя ідэі і замучыла ў катоўнях да 12 мільёнаў чалавек. Між імі, напрыклад, свецяць такія імёны, як Ян Гус, італьянскі астраном Чэка д'Асколі, які даводзіў, што Зямля круглая, Джардана Бруна, Галілей і іншыя.

Навука і рэлігія — два даўнія ворагі і антыподы. І таму палёт першага чалавека ў космас вядзе да канчатковага вызвалення чалавека ад путаў рэлігіі.

Мы на парозе вялікіх, грандыёзных здзяйсненняў. Адчынена акно ў космас, у Сусвет, да Сонца, да зор, якія робяцца для нас бліжэйшымі і ўжо больш зразумелымі на сваіх «вечных», велічных шляхах. Асваенне космасу павялічыць, пашырыць сферу прыкладання розуму і працы чалавека.

Слава першаму касманаўту Юрыю Гагарыну! Слава партыі, Радзіме!

**Піліп ПЕСТРАК.**

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

## У высь касмічнага прастору

**Мы зналі:**
**Скора!**
**Скора!**
**Скора!**
**І ён пачаўся —**
**Новы век:**
**У высь касмічнага прастору**
**Падняўся першы чалавек.**

**І крыкнуць хочацца:**
**Радзіма!**
**Ты ў даль шчаслівую ляціш!**
**Цябе ўчарашнімі вачыма**
**Сягоння ўжо не разглядзіш!**

**І ў сэрцы мераю ўчарашняй**
**Ужо не змераеш цяпер**
**Крылатай, велічнай, бясстрашнай**
**Любові нашай да цябе.**

**Хвала адважнаму пілоту,**
**Паклон і — слава на вякі!**

**. . . . . . . . . . . .**

**Рыхтуйце сэрцы да палёту —**
**Сябры,**
**Суседзі,**
**Землякі!**

**12.IV.61 г.**

## Гутарка М. С. Хрушчова з першым касманаўтам Ю. А. Гагарыным

Першы сакратар ЦК КПСС і Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў, які знаходзіцца ў раёне Сочы, 12 красавіка з неаслабнай увагай сачыў за падрыхтоўкай і запускам карабля-спадарожніка «Усход», за палётам першага ў свеце касманаўта, савецкага грамадзяніна лётчыка-камуніста Ю. А. Гагарына—піянера асваення космасу.

Неўзабаве пасля паведамлення аб шчаслівым завяршэнні першага касмічнага палёту і прызямлення Ю. А. Гагарына ў зададзеным раёне адбылася гутарка па тэлефоне паміж таварышам М. С. Хрушчовым і першым касманаўтам Ю. А. Гагарыным. Гэта адбылося ў 13 гадзін па маскоўскаму часу. М. С. Хрушчову паведамілі, што з ім хоча пагутарыць Ю. А. Гагарын.

— З вялікім задавальненнем пагавару з таварышам Гагарыным,—сказаў М. С. Хрушчоў.

Узяўшы тэлефонную трубку, Мікіта Сяргеевіч гаворыць: я рад слухаць Вас, дарагі Юрый Аляксеевіч.

**Ю. А. Гагарын:**—Я толькі што атрымаў Вашу прывітальную тэлеграму, у якой Вы віншуеце мяне з паспяховым завяршэннем першага ў свеце касмічнага рэйса. Сардэчна дзякую Вам, Мікіта Сяргеевіч, за гэтае віншаванне. Шчаслівы далажыць Вам, што першы касмічны палёт паспяхова завершан.

**М. С. Хрушчоў:**—Сардэчна вітаю і віншую Вас, дарагі Юрый Аляксеевіч! Вы першым у свеце зрабілі касмічны палёт. Сваім подзвігам Вы праславілі нашу Радзіму, праявілі мужнасць і гераізм у выкананні такога адказнага задання, сваім подзвігам Вы зрабілі сябе неўміручым чалавекам, таму што Вы першым з людзей праніклі ў космас.

Скажыце, Юрый Аляксеевіч, як вы сябе адчувалі ў палёце. Як праходзіў гэты першы касмічны палёт?

**Ю. А. Гагарын:**—Я адчуваў сябе добра. Палёт праходзіў вельмі паспяхова. Уся апаратура касмічнага карабля працавала дакладна. У час палёту я бачыў зямлю з вялікай вышыні. Былі бачны моры, горы, вялікія гарады, рэкі, лясы.

**М. С. Хрушчоў:**—Можна сказаць, што Вы адчувалі сябе добра?

**Ю. А. Гагарын:**—Вы правільна сказалі, Мікіта Сяргеевіч. Я адчуваў сябе ў касмічным караблі добра, як дома. Я яшчэ раз дзякую Вам за сардэчнае віншаванне і прывітанне з паспяховым завяршэннем палёту.

**М. С. Хрушчоў:** — Я рад слухаць Ваш голас і вітаць Вас. Буду рад сустрэцца з Вамі ў Маскве. Мы разам з Вамі, разам з усім нашым народам урачыста адсвяткуем гэты вялікі подзвіг у асваенні космасу. Няхай увесь свет глядзіць і бачыць, на што здольна наша краіна, што можа зрабіць наш вялікі народ, наша савецкая навука.

**Ю. А. Гагарын:** — Няхай цяпер усе краіны даганяюць нас!

**М. С. Хрушчоў:** — Правільна! Вельмі рад, што Ваш голас гучыць бадзёра і ўпэўнена, што ў Вас такі выдатны настрой! Вы правільна кажаце, — няхай капіталістычныя краіны даганяюць нашу краіну, якая пракладала шлях у космас, паслала першага ў свеце касманаўта. Усе мы ганарымся гэтай вялікай перамогай.

Тут прысутнічае Анастас Іванавіч Мікаян, ён перадае Вам сардэчнае віншаванне і прывітанне.

**Ю. А. Гагарын:** — Перадайце маю падзяку Анастасу Іванавічу і лепшыя пажаданні яму!

**М. С. Хрушчоў:** — Скажыце, Юрый Аляксеевіч, у Вас ёсць жонка, дзеці?

**Ю. А. Гагарын:** — Ёсць і жонка Валянціна Іванаўна і дзве дачкі — Лена і Галя.

**М. С. Хрушчоў:** — А жонка ведала, што вы паляціце ў космас?

**Ю. А. Гагарын:** — Так, ведала, Мікіта Сяргеевіч.

**М. С. Хрушчоў:** — Перадайце маё сардэчнае прывітанне Вашай жонцы і Вашым дзецям. Няхай Вашы дочкі растуць і ганарацца сваім бацькам, які здзейсніў такі вялікі подзвіг у імя нашай Савецкай Радзімы.

**Ю. А. Гагарын:** — Дзякуй, Мікіта Сяргеевіч. Я перадам гэтае Ваша прывітанне і назаўсёды запомню Вашы сардэчныя словы.

**М. С. Хрушчоў:** — А Вашы бацькі, маці і бацька, жывыя, дзе яны знаходзяцца цяпер, чым займаюцца?

**Ю. А. Гагарын:** — Бацька і маці жывыя, яны жывуць у Смаленскай вобласці.

**М. С. Хрушчоў:** — Перадайце Вашаму бацьку і Вашай маці мае сардэчныя віншаванні. Яны маюць права ганарыцца сваім сынам, які здзейсніў такі вялікі подзвіг.

**Ю. А. Гагарын:** — Вялікае дзякуй, Мікіта Сяргеевіч. Я перадам Вашы словы бацьку і маці. Яны будуць рады і глыбока ўдзячны Вам, нашай партыі і Савецкаму ўраду.

**М. С. Хрушчоў:** — Не толькі Вашы бацькі, але ўся наша Савецкая Радзіма ганарыцца Вашым вялікім подзвігам, Юрый Аляксеевіч. Вы здзейснілі подзвіг, які будзе жыць у стагоддзях.

Яшчэ раз ад душы вітаю Вас з паспяховым завяршэннем першага касмічнага палёту. Да хуткай сустрэчы ў Маскве. Жадаю Вам усяго найлепшага.

**Ю. А. Гагарын:** — Дзякуй, Мікіта Сяргеевіч. Яшчэ раз дзякую Вам, роднай Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду за вялікае давер'е, аказанае мне, і запэўніваю, што і ў далейшым гатоў выканаць любое заданне Савецкай Радзімы. Да пабачэння, дарагі Мікіта Сяргеевіч!

## Надзвычайна!

Гэтую вестку мы чакалі, да яе, можна сказаць, былі падрыхтаваны, верылі, што прыйдзе дзень, — і яна, крылатая, у адно імгненне абляціць, ускалыхне ўвесь свет. І ўсё ж кожны з нас зазнаў непаўторнае па сіле хваляванне, калі радыё паведаміла: грамадзянін Савецкага Саюза — у космасе!

Захапляючая, выдатная падзея!

Новая старонка ў гісторыі нашай планеты адкрыта! І адкрыў яе савецкі чалавек на касмічным караблі «Усход». Імя першага касманаўта, слаўнага сына нашай Радзімы лётчыка Юрыя Гагарына сёння — ва ўсіх на вуснах! Аб ім і аб яго подзвігу цяпер гавораць у кожным кутку Зямлі. Яго імя залатымі літарамі будзе запісана ў стагоддзях!

З незвычайным хваляваннем мы сачылі за палётам карабля-спадарожніка, на якім быў першы касманаўт! Сэрца перапаўнялася радаснымі пачуццямі, калі радыё адну за адной перадавала весткі аб ходзе палёту, аб самаадчуванні мужнага разведчыка космасу. А калі прыйшла вестка, што Юрый Гагарын паспяхова вярнуўся з караблём на зямлю — радасць наша была асабліва вялікай.

Атрыманая перамога — яшчэ адно сведчанне, на гэты раз выключна бліскучае, велічы навукі і тэхнікі нашай краіны, гераізму і высакародных імкненняў савецкага народа.

Подзвіг, здзейснены 12 красавіка ў асваенні космасу — надзвычайны! За ім — новыя палёты касмічных караблёў з людзьмі, новыя перамогі. Так будзе, так запланавана нашай партыяй, нашым народам. І мы радуемся, ганарымся гэтым!

**Мікола ТКАЧОЎ.**

# А МЫ ЛЯЦІМ ВЫШАЙ І ВЫШАЙ

*(Янка КУПАЛА)*

★ ★

## Папраўка з космасу

Затаіўшы дыханне, слухаў я па радыё паведамленне аб палёце чалавека ў космас.

Слухаю, а самому верыцца і не верыцца. Што гэта, сон? Не, не сон. Што гэта, казка? Не, не казка. Гэта наша ява. Паведамленне ТАСС было кароткім. Словы дыктара так усхвалявалі розум і сэрца, што міжволі пырснулі слёзы радасці, загаварыла ў душы гордасць за нашу Савецкую дзяржаву, за тое, што паляцеў у космас першым у свеце наш, савецкі чалавек. Паляцеў на савецкім касмічным караблі. Паляцеў не скідаць смяротныя бомбы на Зямлю, а панёс сцяг міру і спакою ўсім людзям нашай планеты.

Падзеі савецкага жыцця заўсёды апярэджваюць нас, літаратараў. Пакуль пішаш твор аб адным, глядзіш, ужо трэба пісаць аб другім, аб новых падзеях.

Так здарылася і са мною. Некалькі дзён назад мы дамовіліся з кампазітарам Эдзі Тырманд напісаць кантату, якую назвалі «Неба». Галоўная тэма кантаты — уславіць нашых будучых касманаўтаў. Мы былі ўпэўнены, што напішам кантату раней, чым касманаўты паляцяць у космас. І ў мяне паявіліся ўжо на рабочым стале першыя радкі песні:

Люблю цябе, неба,
Над Нёманам родным,
Над Мінскам, над Сожам
Крутым, быстраводным.

І... раптам — паведамленне ТАСС. Нас касманаўты апярэдзілі!.. Але песня наша не абарвалася, яна толькі спынілася, каб ярчэй зазвінець.

Сэрца не змяшчае ўсяго таго гераічнага, слаўнага, што хочацца сказаць аб нашых простых савецкіх людзях, якія здзяйсняюць гераічныя подзвігі.

**Адам РУСАК.**

## ЯК ГЭТА ХАРАША!

Ранак. Я сяджу за сталом. Пачуў, як у калідоры зазваніў тэлефон. Звычайна ахвотней за ўсіх да тэлефона падбягае дачка, шасцікласніца Галя. У такі час найбольш і звоняць да яе — сяброўкі па школе: ці рашыла задачу, а калі рашыла, то як. Але я пачуў, як яна ў тэлефон пыталася: «Па радыё? Чалавек у космасе?» Я адразу ж падбег і ўключыў прыёмнік.

Чуўся ўжо, як заўсёды, урачысты голас Левітана:

— Гаворыць Масква. Працуюць усе радыёстанцыі Савецкага Саюза...

Мы паспелі толькі парасчыняць усе дзверы, каб чутно было на ўвесь дом, бо кожны баяўся скрануцца са свайго месца, каб не прапусціць ні аднаго слова.

...Спадарожнік «Усход»... лётчык маёр Гагарын... перыгей 175, апагей 302 кіламетры... вага 4.725, час аблёту 89,1 мінуты...

Левітан змоўк, Галя не паспела яшчэ адзецца, так і стаяла ў дзвярах, прасунуўшы галаву ў сукенку. У Ані ў руках быў карандаш — яна чарціла, і цяпер з гэтым карандашом і ўвайшла да мяне. Пасля ўвайшоў сын Алік, пасля нявестка Лена. Усе яшчэ, здавалася, слухалі. Усе яшчэ баяліся парушыць цішыню. Дзверы былі парасчыняны, я пайшоў хадзіць з пакою ў пакой, з пакою ў пакой, бо цяпер ужо не сядзелася.

Нарэшце загаварылі наперабой, але стараючыся знайсці найбольш кароткія словы:

— Толькі падумаць!

— Усё такі мы першыя падняліся.

— Наш чалавек у космасе!

— Лётчык маёр Гагарын!

— Якая шчаслівая ў яго маці!

Прыёмнік маўчаў надзвычай насцярожана. Гэта значыць, што паведамленне будзе паўтарацца яшчэ. Аня пабегла, каб перадаць навіну суседзям—Брылям, але Янка Брыль ужо сам стаяў каля тэлефона і некаму званіў, перадаваў, каб хутчэй уключалі прыёмнік...

Ну, якая пасля гэтага праца! Я пайшоў, каб пахадзіць па вуліцы, супакоіць самога сябе. Не памятаю прозвішча той дзяўчыны, што падбегла да мяне на Ленінскай вуліцы, знаю толькі, што працуе яна на радыё. Яна аклікнула мяне здалёк, падбегла, паціснула руку і не сказала, а крыкнула, як самую светлую радасць:

— Віншую вас з перамогаю!

— З перамогаю?

Як гэта хараша! Адчуваць, што перамога партыі, народа, навукі ёсць і твая перамога. Што ўсё гэта кроўна табе. Што ўсё гэта зроблена савецкімі людзьмі, якіх ты называеш дарагім патрыятычным словам — «мы».

**Янка СКРЫГАН.**

## НАРАДЗІЛАСЯ НОВАЯ ЭПОХА

Маё жыццё пачалося яшчэ тады, калі не было ні радыё, ні самалётаў, калі звычайны грамафон быў тэхнічным цудам і яго паказвалі са сцэны. Толькі мала хто верыў, што з грамафона можа гучаць чалавечы голас і нярэдка песімісты правяралі, ці не схаваўся хто пад сталом, на якім іграў грамафон.

А якім неверагодным цудам былі першыя кінафільмы, з'яўленне якіх я таксама памятаю.

А было ўсё гэта толькі нейкіх пяцьдзесят з лішнім год назад. Якое ж магутнае парыванне зрабіла наша Савецкая Радзіма, калі сёння мы вітаем першага касманаўта! І гэты касманаўт — наш савецкі, родны чалавек!

Нарадзілася новая эпоха, эра палёту чалавека ў космас!

**М. СЧАНСНОВІЧ,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР, галоўны рэжысёр Баранавіцкага народнага тэатра.**

## У раёне прызямлення

Першы касманаўт Юрый Аляксеевіч Гагарын прызямліўся дакладна ў зададзеным раёне. Мясцовыя жыхары, механізатары, што працавалі на полі, убачыўшы незвычайную з'яву, збегліся, горача віншавалі чалавека, які прыбыў з космасу.

Хутка падляцеў верталёт, і Юрый Алексеевіч быў дастаўлены ў бліжэйшы горад. Жыхары, даведаўшыся аб гэтай падзеі, выйшлі на вуліцы, каб сустрэць героя.

Юрый Аляксеевіч усхвалявана ходзіць па пакоі, усміхаецца, вочы ў яго гараць, настрой добры. Ён зусім яшчэ малады, вельмі моцнага целаскладу, рост—ніжэй сярэдняга, твар адкрыты, рускі, з прыгожай добрай усмешкай. Усе віншуюць, жадаюць яму здароўя. Карэспандэнт «Праўды» звярнуўся да першага касманаўта з пытаннямі.

— Як вы сябе адчуваеце, Юрый Аляксеевіч?

— Адчуваю сябе цудоўна, выдатна. Гатовы выканаць любое новае заданне нашай слаўнай Камуністычнай партыі, роднага Савецкага ўрада, нашай вялікай Радзімы.

— Як вы адчувалі сябе ў палёце?

— У палёце адчуваў сябе вельмі добра, свабодна. Карабель быў для мяне домам, дзе я адчуваў сябе спакойна, упэўнена. Трэба сказаць, што нашы вучоныя, інжынеры і рабочыя, ствараючы такі выдатны карабель, зрабілі вельмі многа для сваёй Радзімы, і першае слова, якое я павінен сказаць, гэта слова вялікай удзячнасці нашаму савецкаму народу, які здолеў выхаваць такіх выдатных людзей, вучоных, інжынераў, рабочых, якія змаглі стварыць цудоўнейшы карабель. А гэта ж толькі пачатак. Уся наша тэхніка цяпер здольна выводзіць у палёт чалавека ў космас.

— Вы зрабілі подзвіг, Юрый Аляксеевіч, — гаворым мы першаму касманаўту.

Юрый Аляксеевіч мякка ўсміхаецца і сціпла адказвае:

— Не, гэта не я зрабіў подзвіг. Гэты подзвіг здзейснілі ўвесь наш савецкі народ, наша слаўная Камуністычная партыя, Савецкі ўрад. Гэта яны падрыхтавалі ўсё для таго, каб адбыўся палёт у космас, для таго, каб там пабываў першым савецкі чалавек. Мая першая ўдзячнасць нашым вучоным, інжынерам, рабочым, нашаму народу, які здолеў падрыхтаваць подзвіг сусветнага значэння.

**І. МАТВЕЕВІЧ.**
(«Праўда» за 13. IV-1961 г.)

## *Гэты подзвіг не забудзецца*

Клуб друкарні імя Сталіна ў Мінску — поўны. Лінатыпісты, пераплётчыцы, вярстальшчыкі, машыністы — усе ўсхваляваны, усе гавораць пра адно і тое ж: пра веліч савецкай навукі, пра мужнасць адважнага касманаўта, пра здзяйсненне адвечных мар палёту ў Сусвет. Работнікі паліграфіі сабраліся на мітынг. Дырэктар выдавецтва «Звязда» Н. Міускі прачытаў паведамленне ТАСС. Затым слова было прадастаўлена галоўнаму тэхнолагу Л. Тэўшу. Ён гаворыць:

— У касмічнага карабля цудоўная назва: «Усход». У ёй як нельга лепш сімвалічна выказаны веліч нашай роднай дзяржавы. На шчасце людзям пракладзена першая ў свеце касмічная траса. Пройдуць вякі, і нашчадкі не забудуць гэты подзвіг.

Слова папрасіў рэтушор афсетнага цэха, член камітэта камсамола Г. Разумаў.

— Маладое жыццё першага ў свеце касманаўта Юрыя Гагарына — прыклад кожнаму камсамольцу, — гаворыць Разумаў. — Так трэба любіць Радзіму, так самаададана служыць ёй. Юрый Гагарын навекі праславіў нашу Айчыну.

Свае думкі выказала адна з лепшых работніц наборшчыца Тамара Бабіновіч. Яна сказала:

— Вялікі подзвіг Юрыя Гагарына натхніў савецкіх людзей. Кожнаму хочацца працаваць яшчэ лепш. Знамянальна тое, што гэтая гістарычная падзея адбылася напярэдадні XXII з'езду Камуністычнай партыі. Я выкажу думку ўсіх работнікаў друкарні, калі скажу: «Родная краіна, наша праца, наша жыццё належыць табе!..»

Вялікія мітынгі рабочых і служачых адбыліся на Мінскім паліграфічным камбінаце імя Я. Коласа, на аўтамабільным і трактарным заводах, на многіх прадпрыемствах Гомеля, Віцебска, Брэста, у калгасах рэспублікі.



Каб ніводнае слова не праляцела міма... Фотаэцюд **Н. САЛАЎЯ**

## Грандыёзны навуковы эксперымент

Карэспандэнт ТАСС звярнуўся да вядомага савецкага фізіёлага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР Э. А. Асрацяна з просьбай асвятліць буйнейшае дасягненне СССР у асваенні космасу.

— Не кожная эпоха, — сказаў у гутарцы вучоны, — бывае адзначана ў свядомасці будучых пакаленняў падзеяй, якая не мела прэцэдэнтаў у гісторыі. У другой палавіне XX стагоддзя такой падзеяй з'явіўся прарыў чалавека ў космас. Граніцы Сусвету быццам рассунуліся. Настаў той самы час, надыход якога прадбачыў Канстанцін Эдуардавіч Цыялкоўскі. Расшчапіўшы найдрабнейшую часцінку рэчыва і раскаваўшы энергію атама, чалавек вырашыў заглянуць у іншыя сусветы, «асвоіць» калясонечную прастору. У чалавецтва быццам выраслі крылы.

### ПРАГРАМА «АБЖЫВАННЯ» КОСМАСУ

Амаль з першых палётаў штучных спадарожнікаў Зямлі пачалася дыскусія паміж савецкімі і амерыканскімі спецыялістамі: якім павінен быць спадарожнік — цяжкім або лёгкім?! Цяпер, напэўна, ужо не застаецца сумнення ў тым, што ідэя лёгкага спадарожніка прыкрывае толькі жаданне вырашыць праблему найбольш «лёгкім» спосабам. Зусім зразумела, што вывесці на арбіту штучнае нябеснае цела невялікай вагі тэхнічна значна прасцей, чым запусціць і надаць касмічную скорасць цэламу паветранаму аўтобусу.

Дыскусія пачалася ўжо тады, калі ўвесь свет са здзіўленнем прачытаў аб першым зоркавым прабегу шарападобнага савецкага спадарожніка вагой у 83,6 кілаграма. Гэты здзіўляючы палёт, што зацвердзіў у стагоддзях прыярытэт савецкай навукі ў вывучэнні касмічнай прасторы, даў не толькі першыя звесткі аб з'явах, якія адбываюцца ў прасторы вакол Зямлі, але і пацвердзіў правільнасць і перспектыўнасць разлікаў савецкіх канструктараў, вучоных, інжынераў. Пытанне ў прынцыпе было вырашана ў карысць савецкай тэорыі спадарожніка. І ўжо, пачынаючы з наступнага запуску, вага яго была адразу павялічана ў некалькі разоў. Дзякуючы гэтаму мы атрымалі магчымасць разгарнуць у многіх аспектах праграму вывучэння касмічнай прасторы, загадзя распрацаваную ў асноўных дэталях.

Такім чынам, эксперыментальная падрыхтоўка да палёту чалавека практычна пачалася ў Савецкім Саюзе трэцяга лістапада 1957 года, калі на арбіту вакол Зямлі выйшаў другі штучны спадарожнік, несучы герметычны кантэйнер з паддоследнай жывёлінай, сістэмай кандыцыянаванага паветра, запасам ежы і прыборамі для вывучэння жыццядзейнасці ва ўмовах касмічнай прасторы. Агульная вага апаратуры, паддоследнай жывёліны і крыніц электрасілкавання складала 508,3 кілаграма.

Калі ўслед за тым 15 мая 1958 года Савецкаму Саюзу ўдалося ажыццявіць запуск трэцяга спадарожніка вагой у 1.327 кілаграмаў, аказалася магчымым пачаць наступны этап падрыхтоўкі палёту чалавека ў космас — да стварэння ўжо не проста спадарожнікаў, а касмічных караблёў—своеасаблівага жылля чалавека ў прасторы Сусвету.

Паспяховым запускам першага такога карабля азнаменавалася ў нашай краіне вясна 1960 года.

### ФІЗІЯЛОГІЯ І КАСМІЧНАЕ ПАСКАРЭННЕ

Разам з тым на чаргу дня сталі такія медыка-біялагічныя праблемы, з якімі навука да гэтага часу яшчэ не сустракалася. Гэтыя праблемы былі якасна новымі не толькі таму, што тут мы мелі справу з многімі невядомымі, яны асабліва выразна паказалі, што прагрэс сучаснай біялогіі магчымы толькі на шляху яе саюза з хіміяй, фізікай і нават механікай.

Да такіх праблем адносяцца, напрыклад, вялікія паскарэнні руху. Неабходна было вызначыць, ці зможа чалавек фізіялагічна перанесці з'явы, звязаныя з палётам на касмічным караблі, знаходжаннем на ім і наступным спускам на паверхню Зямлі? Які ўплыў акажуць на жыццядзейнасць арганізма касмічнае паскарэнне карабля і іншыя фактары, звязаныя з палётам?

У сувязі з гэтым ад савецкіх фізіёлагаў і медыкаў запатрабавалася грунтоўна даследаваць сапраўдны малюнак уплыву перагрузак, няважкасці, замкнёнага асяроддзя і г. д. Затым удалося распрацаваць меры аховы арганізма супраць гэтых шкодных фактараў, а таксама прадухілення магчымых іх вынікаў. У аснову такіх мер былі пакладзены старанныя сістэматычныя даследаванні на жывёлінах.

Трэба сказаць, што фізіялогія чалавека, яе індывідуальныя асаблівасці адыгрываюць вялікую ролю пры падрыхтоўцы касманаўтаў. Не кожны можа ім стаць, гэтак жа, як не кожны становіцца лётчыкам. Але нават для людзей, фізіялагічны склад і вышэйшая нервовая дзейнасць якіх адпавядае прад'яўляемым патрабаванням, касманаўту неабходна працяглая трэніроўка. Такім чынам, фізіёлагі вырашылі яшчэ адну важную задачу: імі распрацаваны навукова абгрунтаваныя прынцыпы ўсебаковай трэніроўкі арганізма і падрыхтоўкі яго да такога адказнага выпрабавання, якім з'яўляецца палёт у космас.

### ФІЗІЯЛАГІЧНЫ КАНТРОЛЬ НА АДЛЕГЛАСЦІ

Цяжка пераацаніць значэнне даных аб уплыве перагрузак на арганізм, якія мы атрымалі пры палётах паддоследных жывёлін на савецкіх касмічных караблях. Для гэтага праводзіўся ўпершыню ў сусветнай навуковай практыцы фізіялагічны кантроль на такой велізарнай адлегласці. Апрача таго, аб'ектам назірання былі арганізмы, якія знаходзяцца ў стане бесперапыннага і імклівага палёту.

Новая дасканалая апаратура, тэлебачанне і радыётэлеметрыя далі магчымасць вывучыць фізіялагічныя рэакцыі жывёлін на розных участках палёту. Так было «прашчупана» біццё пульса сабакі Белкі — аднаго з пасажыраў другога савецкага касмічнага карабля. Зарэгістравана рэзкае пачашчэнне яго пульса на актыўным участку палёту, у час работы рухавікоў ракеты-носьбіта. У гэты прамежак часу частата пульса дасягала амаль 200 удараў у мінуту. Потым пульс нармалізаваўся.

А вось і даныя аб дзеянні перагрузак на ўчастку спуску касмічнага карабля. Так, у Чарнушкі — пасажыра чацвёртага савецкага касмічнага карабля — к канцу палёту частата пульса знаходзілася ў мяжы 70—90 удараў у мінуту. У першыя мінуты спуску частата пульса дасягала 240 удараў у мінуту, а затым паступова знізілася да 120—140 удараў. Усё гэта паказала фізіёлагам і ўрачам, наколькі высокая адчувальнасць да змянення ўмоў палёту з боку сістэмы кровазвароту. Адсюль вучоныя змаглі зрабіць вывад, што неабходна стварыць умовы, пры якіх бы гранічна амартызаваліся ўздзеянні перагрузак на чалавека-касманаўта. Пры гэтым улічвалася тая акалічнасць, што ўплыў гэты можа закрануць не толькі вегетацыйныя функцыі чалавечага арганізма, але і вышэйшыя аддзелы цэнтральнай нервовай сістэмы. Гэтая акалічнасць была адной з важнейшых у сістэме падрыхтоўкі да палёту чалавека ў космас. Яна ўлічвалася ў першую чаргу пры абсталяванні кабіны або таго, што атрымала назву «насяляемай» часткі касмічнага карабля...

### НЕ Ў 2017, А Ў 1961...

Вы, магчыма, памятаеце, як абрысаваў Канстанцін Эдуардавіч Цыялкоўскі сваю мару аб палёце касмічнага карабля з людзьмі на борце. Час гэтай падзеі ён аднёс да 2017 і наступных гадоў. Група вучоных розных нацыянальнасцей, пабудаваўшы касмічныя караблі, адпраўляецца ў падарожжа — спачатку вакол Зямлі, затым на Месяц і, нарэшце, робяць палёт у межах сонечнай сістэмы. Як фантастычны раман, чыталі мы радкі, у якіх рускі вучоны прадугадаў момант, калі ракета з вучонымі, што знаходзяцца ў ёй, ляціць за межамі атмасферы. Сіла цяжару адсутнічае. Спачатку гэта служыць перашкодай у жыцці незвычайнага экіпажа. Але, прыстасаваўшыся да існавання ў новых умовах, удзельнікі экспедыцыі пачынаюць знаходзіць перавагі такога жыцця.

Вось, напрыклад, што сказаў адзін з гэтых касманаўтаў, народжаных у той час геніяльнай фантазіяй Цыялкоўскага: «Па-мойму, самае лепшае тое, што не патрэбна ніякіх намаганняў і расходаў для ўласнага руху і перамяшчэння любых, хоць бы самых велізарных мас, не патрэбна напружання мускулаў людзей і жывёлін...»

«Не трэба паяздоў, параходаў, коней, дырыжабляў, аэрапланаў, вугалю, дроў і да т. п.», — сказаў другі.

Так марыў Цыялкоўскі — заснавальнік тэорыі ракетнага руху. Ён толькі не меркаваў, што падзеі разгорнуцца значна хутчэй, чым мог сабе ўявіць гэты смелы і празорлівы розум. Не ў 2017, а ў 1961...

Такім чынам, чалавек з Краіны Саветаў зрабіў першы ў свеце рывок у космас. Гонар і слава яму! Гонар і слава краіне, якая выхавала героя, аднаго з тых, каму належыць будучыня. І ў гэтым выдатным акце з новай сілай праявіліся перавагі сацыялістычнага ладу. Толькі ў гэтых умовах мог з такой паўнатой раскрыцца калектыўны розум нашага народа, які даў свету многіх выдатных вучоных, канструктараў, інжынераў.

Толькі арганізуючая роля Камуністычнай партыі магла побач са смелай задумай забяспечыць такую строгую паслядоўнасць у ажыццяўленні плана падрыхтоўкі палёту чалавека ў космас, няўхільна забяспечыць поўную бяспеку такога палёту, мабілізаваць вучоных многіх галін ведаў на стварэнне комплексу ўмоў, якія выключаюць усякую магчымасць зрыву, выпадковасці, гібельнага зыходу. Для Савецкага Саюза гэта не пагоня за сенсацыяй, гэта грандыёзны навуковы эксперымент! Вялікі эксперымент быў падрыхтаваны напэўна. І гэта поспех усяго нашага Савецкага Саюза ў цэлым. Будучыя пакаленні добра запомняць гэты год — 1961! Калясонечная прастора, пачынаючы з гэтага знамянальнага года, стала падуладная людзям!

За першым, заўсёды самым цяжкім крокам, бясспрэчна, з'явяцца новыя, усё больш важныя і цікавыя. Мы стаім на парозе раскрыцця найвялікшых загадак паходжання і развіцця розных форм жыцця, якое магчыма існуе на іншых планетах. Ды і ці можна прадбачыць, да якіх яшчэ незвычайных адкрыццяў прыйдзе чалавек, добрая воля якога да міру і шчасця пакарае і зямлю і неба?!

**Л. МАРКЕЛАВА.**
**Кар. ТАСС.**

★ ★

## Увесь свет у захапленні

Так часта бывае ў нашым жыцці. Яшчэ ўчора невядомае імя савецкага чалавека нечакана становіцца самым папулярным на ўсёй планеце. Вестка пра палёт савецкага чалавека ў космас і яго шчаслівы зварот на родную зямлю ўскалыхнула ўвесь свет, маланкай абляцела ўсе краіны і дзяржавы. Цяпер імя Юрыя Гагарына не сыходзіць з вуснаў і вучонага, і рабочага, і селяніна.

З прычыны паспяховага палёту савецкага лётчыка-касманаўта і яго шчаслівага вяртання на зямлю прыслалі свае віншаванні прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Дж. Кенэдзі, кіраўнік урада Індыйскай рэспублікі Джавахарлал Неру. Яны адзначаюць выдатны подзвіг савецкіх людзей, бліскучую перамогу савецкай навукі.

Захапляюцца цудоўным поспехам савецкага астранаўта Юрыя Гагарына прэзідэнт Польскай Акадэміі навук прафесар Т. Катарбінскі, генеральны сакратар кабінета Міністраў Японіі Охіра, служачы Рабацкага ўніверсітэта (Марока) Махамед Ханіту, вядомы югаслаўскі спецыяліст па космасу, заснавальнік астранаўтычнага таварыства інжынер В. Матовіч, старшыня камуністычнай партыі Швецыі Х. Хагберг, сакратар англійскага таварыства міжпланетных зносін Л. Дж. Картэр і тысячы іншых выдатных вучоных, дзяржаўных і палітычных дзеячоў розных краін свету.

«Я думаю, што 12 красавіка 1961 г. стане датай, якую дзеці будучых пакаленняў будуць запамінаць пры вывучэнні гісторыі праз пяцьдзесят або сто год», — сказаў прэзідэнт Брытанскай асацыяцыі садзеяння развіццю навукі Джордж Томпсан.

Дэпутат парламента ад ліберальна-дэмакратычнай партыі Японіі Такума Уцуномія заявіў карэспандэнту ТАСС:

— Я зноў у захапленні высокім узроўнем навукі і тэхнікі Савецкага Саюза. Хоць я і не спецыяліст, але павінен прызнаць, што гэты навукова-тэхнічны прагрэс здзейснен сацыялістычнай сістэмай. Ва ўмовах, калі чалавек зрабіў палёт у космас, вайна павінна быць прадухілена.

— Здзіўляючая навіна! — сказаў карэспандэнту ТАСС англійскі вучоны-фізік Джэймс Рынг. — Мы хацелі б перадаць шчырае віншаванне нашым калегам у Савецкім Саюзе ў сувязі з іх выключным дасягненнем... Запуск карабля з чалавекам на борце ў касмічную прастору і яго прызямленне ў вызначаным месцы з'яўляецца найвялікшым тэхнічным дасягненнем.

Увесь замежны друк прысвяціў палёту савецкага чалавека ў космас свае першыя старонкі, выходзілі экстраныя выпускі газет, радыё і тэлебачанне няспынна інфармавалі сваіх грамадзян аб тым, як праходзіў палёт касмічнага карабля «Усход» з першым пасажырам—савецкім лётчыкам Юрыем Гагарыным, перадавалі яго біяграфію.

«Новы ашаламляльны трыумф рускіх у спаборніцтве са Злучанымі Штатамі ў космасе. Вучоныя ўсяго свету славяць рускае дасягненне», — гэтыя словы з паведамлення агенцтва Асашыэйтэд прэс адлюстроўваюць захапленне амерыканцаў бяспрыкладным подзвігам савецкага чалавека.

«Гэта самая фантастычная падзея ў жыцці майго пакалення» — заявіў карэспандэнт радыётэлевізійнай кампаніі Сі-Бі-Эс Джафі.

А цэйлонская газета «Цэйлон абсервер», якая выходзіць у Каломба, пісала: «Рускія выйгралі спаборніцтва ў запуску чалавека ў космас».

Савецкі Калумб у космасе! Агенцтва Франс прэс, паведамляючы пра вялікі навуковы подзвіг савецкіх людзей, ліша: «Рускія былі першымі, хто запусціў штучны спадарожнік Зямлі ў 1957 г. Яны першымі дасягнулі Месяца ў 1959 г. Яны першымі запусцілі вакол Зямлі і вярнулі жывых жывёлін у мінулым годзе. Іх дасягненні адкрываюць новую эру чалавечай гісторыі. Падобнага чалавецтва не ведала. Цяпер подзвігі Амундсена, які першым дасягнуў Паўднёвага полюса, Хілары, які першым узняўся на вяршыню Эверэста, здаюцца ў параўнанні з подзвігам Юрыя Гагарына дзіцячымі прагулкамі».

Савецкі Саюз запусціў у космас першага чалавека! — паведамляе агенцтва Рэйтэр. Гэтае паведамленне паўтараецца няспынна, адсунуўшы на задні план усю астатнюю інфармацыю.

У адрас савецкіх пасольстваў за мяжой паступае шмат віншавальных тэлеграм, у якіх аднадушна выказваецца захапленне бяспрыкладным у гісторыі чалавецтва подзвігам Юрыя Гагарына. Ля савецкага пасольства ў Балгарыі сабраліся тысячы людзей. Стыхійная хвалюючая дэманстрацыя працягвалася некалькі гадзін. Над плошчай гучалі савецкія песні, бесперапынна чуліся воклічы: «Слава КПСС!», «Слава савецкім людзям!», «Слава першаму касманаўту—маёру Гагарыну!».

Венгерская газета «Эшці Хірлап» змяшчае выказванне выдатных вучоных і грамадскіх дзеячоў сваёй краіны. «Сённяшні дзень — паваротны пункт у навуцы», — заявіў акадэмік Ласла Эдзьедзь.

— Чалавецтва ніколі не забудзе бліскучых подзвігаў краіны вялікага Леніна, — сказаў мангольскі вучоны А. Луўсандэндэў. — Яна пракладвае чалавецтву дарогу да шчасця на зямлі.

# Пленум Цэнтральнага Камітэта КПБ

11 красавіка адкрыўся V пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

Пленум зацвердзіў наступны парадак дня:

1. Аб стане і мерах паляпшэння партыйна-арганізацыйнай работы ў партыйных арганізацыях КПБ.

2. Аб мерах па выкананню рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС аб павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў і аб ходзе выканання планаў і сацыялістычных абавязацельстваў па вытворчасці і нарыхтоўках сельскагаспадарчых прадуктаў у 1961 годзе.

З дакладам «Аб стане і мерах паляпшэння партыйна-арганізацыйнай работы ў партыйных арганізацыях КПБ» выступіў сакратар ЦК КП Беларусі **П. М. Машэраў.**

У спрэчках па дакладу выступілі сакратар Мінскага абкома КПБ **С. О. Прытыцкі,** сакратар Гродзенскага гаркома КПБ **А. І. Гаранін,** сакратар Дрысенскага райкома КПБ **М. І. Пузанскі,** сакратар Гомельскага абкома КПБ **І. Я. Палякоў,** сакратар Баранавіцкага гаркома КПБ **М. І. Дзялец,** Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР **В. І. Казлоў,** сакратар Мінскага гаркома КПБ **А. Б. Насілоўскі,** сакратар Віцебскага гаркома КПБ **В. М. Сініцын,** старшыня Беларускага рэспубліканскага савета прафесіянальных саюзаў **І. М. Макараў,** сакратар Бабруйскага гаркома КПБ **І. В. Цімончык,** загадчыца аддзела партыйных органаў Брэсцкага абкома КПБ **Р. Р. Пуціна.**

* * *

12 красавіка V пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі працягваў сваю работу.

У спрэчках па дакладу П. М. Машэрава «Аб стане і мерах паляпшэння партыйна-арганізацыйнай работы ў партыйных арганізацыях КПБ» выступіў загадчык аддзела партыйных органаў ЦК КПБ **С. А. Пілатовіч.**

Затым з дакладамі па другому пункту парадку дня «Аб мерах па выкананню рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС аб павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў і аб ходзе выканання планаў і сацыялістычных абавязацельстваў па вытворчасці і нарыхтоўках сельскагаспадарчых прадуктаў у 1961 годзе» выступілі сакратар Брэсцкага абкома КПБ **А. А. Смірноў,** сакратар Віцебскага абкома КПБ **У. Е. Лабанок,** старшыня выканкома Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных **М. А. Кліменка,** сакратар Гродзенскага абкома КПБ **Р. Р. Панамароў,** старшыня выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных **У. Ф. Міцкевіч,** сакратар Магілёўскага абкома КПБ **К. В. Мацюшэўскі.**

У спрэчках выступілі сакратар Карэліцкага райкома КПБ **П. А. Жалезняковіч,** аграном калгаса імя Дзяржынскага Аршанскага раёна **Б. А. Лучко,** намеснік міністра сельскай гаспадаркі БССР **С. Г. Скарапанаў,** свінарка калгаса імя Леніна Капыльскага раёна **Е. Н. Давыдоўская,** механізатар калгаса «Кастрычнік» Хойніцкага раёна **В. П. Кот,** старшыня калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна **П. Ф. Сянько,** старшыня Савета Міністраў БССР **Ц. Я. Кісялёў,** начальнік Упраўлення птушкагадоўлі Галоўнага ўпраўлення саўгасаў пры Савеце Міністраў БССР **К. С. Ператыцкі,** сакратар ЦК КПБ **Ф. А. Сурганаў.**

На пленуме з прамовай выступіў кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС першы сакратар ЦК КПБ **К. Т. Мазураў.**

Па абмеркаваных пытаннях пленум ЦК КПБ прыняў адпаведныя пастановы.

Пленум ЦК КПБ прыняў пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС і Першаму сакратару ЦК КПСС таварышу М. С. Хрушчову ў сувязі з паспяховым ажыццяўленнем першага палёту чалавека ў космас.

Пленум накіраваў таксама прывітальнае пісьмо слаўнаму савецкаму патрыёту маёру Юрыю Аляксеевічу Гагарыну, які паспяхова ажыццявіў першы палёт у касмічную прастору.

